Бывайце здаровы
Ды тыя парогі,
Ды гдзе пахадзілі
Мае белы ногі.

Ды гдзе пахадзілі,
Хадзіці ні будуць.
Каго мы любілі,
Любіні ні будзом.

(*З другога куплета далучаецца Наста*).

*Грышка*. Баста, пайду у сьвет шукаць апошняй пасьцелі. А ты жыві шчасьліва. Бывай здарова Настачка, ні памінай мяне ліхам. Я буду любіць цябе да скону, буду маліцца за цябе Богу. Дай толькі яшчэ раз паглядзець на цябе, на твае ясныя вочы, дай пацалую цябе апошні раз... Мілая... Настачка... (*Цалуюцца*).

*Грышка*. Аставайся здарова, Наста! (Глядзіць на яе).

*Наста*. Грышачка, галубочак, ні пакідай мяне! Астанься хоць па нядзельку!

*Грышка*. (*выходзючы*) Бывай здарова! Вот тут мая надзея на шчасьце (*Кідае кецку з грашыма*), мэжа Бог грэха дарус. (*Наста шугаецца да яго, але у сенях чутна размова*) «Да забачэння, Костусь!»—«Да забачэння,—куды-ж ты уцякаеш, Грышка?»). (Працяг будзе).

# Сымон Музыка.

(Казка жыцця).

Часьць трэцця.

II.

Нівядомая дарога...
Край далёкі і чужы...
Вы сулілі сэрцу многа,
Хто ўсхадзіў на рубяжы
І знайходзіў у сабе сілы
Путы прошласьці парваць,
За парог ступіць німілы,
Долю, шчасьце пашукаць.
Вы цягнулі, вы пужалі
І для беднай галавы
То надзеі параджалі,
То сумленнем білі вы...
У чым жа ваша гэта сіла
Над бяздольнаю душой?
Што дае ёй мах і крылы
Узьняцца сьмела над зямлёй?
І чаму вам ўлада дана
Сэрцо чарамі абвіць,
Каб пуціну у край нізнаны
Пышна ружамі укрыць?
Толькі ж часта насьміхаліс,
Злосна зманьвалі вы нас,
Як мы шчыра даверались,
Пакладаліся на вас!..
Ціхім ранкам, ў задуменні,
Йшоў Сымон у Божы сьвет,
Сам ні знае, што сустрэне,
Ці пакіне у ім сьлед.
Па бакох пале ляжалі,
Нападаліся гае,
І дарогу прабегалі
С ціхім гулам ручае
І шчасьліва беглі далей
Між высокіх беражкоў,
Гаманілі хвалька с хвалей
Сьпевам роўных галасоў
І у душу закідалі
Вотклік згоды і спакой.
Іх алешыны віталі
І ад сонейка хавалі,
Стаўшы цеснаю сьцяной.
Беглі сьценкі між жытамі
Па узгорках і лагох,
І прыгожа васількамі
Убрау поле тое Бог.
Шоў Сымон адзін, свабодны
І нізьвязаны нічым;
Чуўся ён—і полю родны
І тым хмаркам вяснавым,
Што усплывалі над палямі
У ясно-сініх небясох,
Пазлацонымі краямі
Гожа зьяючы ў лучох;
І вітаў іх, ім сьмеяўся,
Падарожны малады
І ціхутка ў іх пытаўся:
«А вы, мілыя, куды?..
Вам дарогі усе адкрыты,
Дзеткі сонца і зямлі,
Клопат, думкі,—усё пазбыто,
Вас нягоды абышлі».
А дарога у пяць нітак
Усё бяжыць і усё бяжыць,
На абапал з ею жыто
Каласкамі гаманіць;
І ідуць, ідуць малюнкі
Поля, лесу і лугоў,
І ляжаць, бы тыя стрункі,
У полі засевы шнуроў.
А вот там, на павароці,
Дзе высокі крыж стаіць,
Яблык вежы ў пазалоці
У небі зьяе і гарыць.
Параўняўшысь, прыпыніўся
І набожна шапку зьняў,
Ціха хлопчык памаліўся,
Богу чэсьць, хвалу аддаў,
І дыбае зноў дарогай.
Сонцо стало прыпякаць;
Развважаць пачаў убогі,
Дзе б пажывы пашукаць?
У бок дарога павярнула,
Лёгшы зграбнаю дугой;
З-за дзярэў стрэха зірнула,
І дзьве коміны на ёй.
Падышоў Сымон—карчомка
Са стадолай і дваром.
Усім вядомы жыдок Шлёмка
Быў даўно тут карчмаром.
Шлёму лаялі і білі,
Ды ні моцна, ні са злом,
Бо яго такі любілі—
Ні міналі яго дом.
Ды і як з ім ні паладзіць?
Як бы ты ні быу з ім груб—
І пасудзіць і парадзіць,
Ды і выпіць даць ні скуп,
Абы толькі былі грошы,
Німа грошай—напавер;—
Адным словом,—жыд харошы,
Толькі й ты яму адмер.
Дык ні дзіво, што да Шлёмы,
Плыў народ, як у касьцёл,
Шоў і свой і нізнаёмы,
Узяўшы у кецку і ў прыпол.
І чаго тут ні сустрэнеш!
Сьпеву, бойкі,—ўсяго шмат,
І сам часам вобраз зьменіш,
Потым сам сабе ні рад.
Тут пасэсар, арэндатар,
Дробны шляхціц, важны пан,
Хто папіць, гульнуць аматар,—
Кожын міл быў і жадан.
Вот Сымонка затрымаўся—
Ці зайсьці, ці лепш мінуць?
Урэшці сьмеласьці набраўся—
«А чамуж ні заварнуць?»
Хоць ні сьмела, ды ступае
На карчомны ён парог
І пужліва азірае
Гэты мотлошны бярлог.
Удоўж сьцен цягнуліс лавы.
На сталох—слядэ яды—
Крошкі хлеба і патравы;
З аднае сьцяны жыды
З-за асадак пазіралі,
Да так важно, як панэ.
За сталамі засядалі
Выпівакі, ядунэ.
Пах гарэлкі, дым махоркі,
Як туман пад столлю зьвіс,
І ад сьмеху і гаворкі
Сьцены голыя трасьліс
Тут сварыліс і гадзіліс,
Цалаваліся сябрэ,
Пахваляліс і насіліс
З сваёй сілай вухарэ.
Бегаў Шлёма, як шалёны
То к сталу, то ад стала,
І быў ён як рак чырвоны,
Цёрся усюды, як мятла.
Пазіраў Сымон пудліва
І хацеў ўжо маху даць,—
Тут падскочыў Шлёма жыва
І стаў хлопца заклікаць:
—Ну, йдзі далей, места хваце,
Ну, ні бойся—ні зьядуць.
Зайграй людзям, пане браце—
У кішэні накладуць.—
Пасьмялеў Сымон,—дыбае,
Азіраючысь вакруг.
Ось ён мейсцо выбірае,
Забірае яго рух;
Вынуў скрыпку, смык падмазаў
І па струнах як павёў,—
Ціха стало усё адразу,
Змоўкло моро галасоў.
Павярнуліс усе галовы,
У той бок, дзе граў Сымон,
Дзе йшоў гоман, ціхі, новы,—
Струн жалобны плач і стон.
Пераглядваліс мужчыны
І ківалі галавой,
То зьгіналі свае сьпіны,
То уставалі чарадой,
Кончыў граць ён і дрыготна
Шапку зьняў і стан скланіў,—
Дараць шчыра і ахвотна,—
Усіх Сымонка тут зьдзівіў;
Нават Шлёма грыўню кінуў,
Да сябе у пакой зазваў.
—От жа здольны, каб ён згінуў!
Люд Сымонку выхваляў.
Прываліло усім кагалам
Племе Шлёмава ў пакой
І стаўпілось цесным валам,
І гуло наперабой
То с Сымонкам, то с сабою;
А з іх самы дасьціпны
Узяў скрыпку і рукою
Дакрануўся да струны...
І ні рад Сымон тэй чэсьці
І кампаніі такой,
Хоча ногі як унесьці,—
Горш астрога той пакой,—
І на дзьверы пазірае,
Як бы вырвацца з галды,
А кагал цясьней сьціскае,
Усё назойлівей жыды.
От ўжо Хаім змайстраваўся,
Каб і смыкам павясьці;
Тут Сымонка ні стрымаўся,
Адбірае смык—«Пусьці!»
Хаім зубы выскаляе
Аж тут Шлёма ўшуснуў сам.
—Го, мой Хаімка ўжо грае!..
Мотка, Хаім, Сруль, Абрам!
Вон пашлі вы!—Выпіхае,
Гоніць Шлёма у карк сыноў,
Потым дзьверы зачыняе,
Да Сымона падышоў,
Сеў напроці,—важна міна.
—Слухай, хлопчэ: ты—жабрак?
Ну, і што? фэ,—цыганіна!
Ні карысьць табе, ні смак.
Ты ж-музыка найпярвейшы!
Ой, музыка! проста—ух!
І пан нават найважнейшы
Да цябе прыклоніць слух...—
І пры гэтым асьцярожна
Жыд ўсё зьнюхаў, распытаў,
Што тут льга і што німожна
І так потым ён дадаў:
—Я такі інтэрас маю,

да цяпер Беларускі нацыянальны конны полк.

Прыходзяць кавалерыйскія часьці з розных фронтаў.

**С.-Гарадок.** У Сёмкавым Гарадку, Мінскаго павету, да 1863 году быў каталіцкі касьцёл. У 1860 годзе ваявода Мінскі, Адам Хмара, сам каталік, каб зьміласьцівіць рускія уласьці, якія у нашым краю пачалі перарабляць касьцёлы на праваслаўныя цэркві, пабудаваў тут на свой кошт і царкаў. Але гэта ні чаму ні памагло, і у 1864 годзе касьцёл такі быў забраны ад каталікоў і пераробляя на царкаў, у якой пачалі атправаляць набажэнство, а пабудованую Хмараю царкву зачынілі, бо у ёй, дзеля малога ліку праваслаўных у акрузе, ні было патрэбы.

Цяпер дамагаюцца, каб каталіком была зьвернута іх даўнейшая сьвятыня, тым болей, што праваслаўным яна ні патрэбна, бо другая царква [новая] стаіць зачыненай і да гэтаго часу. Справядлівасьць, разумеяцца, вымагае, каб каталікі Сёмкава-Гарадзецкай акругі, калі у іх ёсьць на гэта бажанне, адтрымалі назад тое, што некалі у іх гвалтам было узято. Але справядлівасьць-жа вымушае нас сказаць, што трэба, каб адданы назад каталіком касьцёл ні зрабіўся польскай «пляцувкай на крэсах» для перарабляння «люду бялорускего» на «народ польскі».

Гэтаго шахрайства рэлігійнымі патбамі народу беларускаго—досыць!

## Рэзалюцыя салдат беларусаў у Мінску.

Мы, салдаты,—беларусы 289-го пехотнаго запаснаго полка на сабранні ад 3-го студня 1918 г., абгаварыўшы пытанне аб вывадзі полка з гораду Мінску, усе згодна пастанавілі протэставаць проціў гвалту, які чыніцца над беларускімі арганізацыямі, і трэбаваць ніадкладнаго дазволу складаць беларускія нацыянальныя полкі. Мы вымагаем, каб наш полк быў пераіменован у першы нацыянальны беларускі полк з астаўленням яго у г. Мінску.

Прызнаючы прынцып «совѣтской власти» і падтрымліваючы рэзалюцыю, ухваленую I Усебеларускім зьездам, заяўляем, што мы проціў усякай грамадзкай вайны, але калі гэта будзе вымагацца патрэбаю абароны нашых народных інтарэсаў, то мы патрапім адстаяць з зброей у руках.

Мы выказваем нашае даверро і падтрыманне Цэнтральнай Вайсковай Радзе і усе сілы свае у патрэбны момэнт гатовы аддаць на яе распараджэнне.

Дзеля спаўнення усяго выказанаго у гэтай рэзалюцыі, мы пасылаем дэлегацыю Глаўказапу і яшчэ раз заяўляем, што пакінем г. Мінск толькі скараючыся грубому прымусу.

## Чары ночы.

У небі чары... I ноч немая.
Месяц сьветляны, зорак без краю...
Хто там у бездонні блакітнай без конца
Сыпле, як зерні, мільены сонцаў?!

У небі чары... Зямля серабрыцца,
Туман над рэчкай, істужкай дыміцца
Дрымотай атуляна вёска адна...
I небо шапоча: «Спакойнаго сна!»

**Петра Маслоускі.**

## Бітае шкло.

**1. Мой дзед.**

Мой дзед гарэлку добра піу.
Сто лет на сьвеці ен пражыу.
Да працы, кажуць, быу ахвочы,
Але пад старасьць страціу вочы.

**2. Дзядзька Міхалка.**

Дзядзька Міхалка дзелае бочкі,
Бядкія бочкі на продаж.
Зранья да ночкі—бочкі ды бочкі...

**3. Скнарыца.**

Аурам—заможны гаспадар.
Ну, ен—саусім не тараваты.
Смачна сам ні есьць, ні пье,
Старца гоніць вонь с хаты.

**4. Аудоля Міхасіха.**

Міхась гарэлку дужа піу,
А пьяны жонку моцна біу.
Цярпела усе, усягды маучала
Аудоля, жонка Міхася,
Як лепі жыць і ні бажала,—
Як шчэпка, высахла уся.

**5. Пераклад.**

Уляцелі дзеткі у хатку.
Клічуць хутка сваіго татку:
—Паглядзі ідзі, татуля,
Сеткі нашы, як цыбуля,
У мокрай ціне зеляніюць,
I набошчык там балеіць...

**6. Да № *.**

Закахауся надта я,
Відзіш гэта і сама!
Што ж у моучкі ты гуляеш,
Як нічога ні уцямляеш?
Што кажу табе—маучыш;
Прыхінуся—ты крычыш,
Маіх жартау ні прымаіш...

**7. Ф. Чэрнышэвічу.**

Мне мілы гукі роднай мовы
I гул зялёнае дубровы.
Мне любы шэпты каласоу,
Дзявіцы сокат хітрых соу.
I песьню жауронка у полі
Хадзіу я слухаць шмат разоу.
Я быу там сынам Беларусі
I бацькам чыстых абразоу.

**8. Душа.**

Пачуванні мае—вы ні вострыя,
А вы сонныя, ні глыбокія.
Прызаціхла душа, ні варушыцца,
Ні баліць ужо, ды ні цешыцца...
Стрэпянісь-жа ты, мая бедная,
Пабалі іш'чэ—будзеш лепшая!

*М. Г.*

## Зоры магутныя.

Зоры магутныя, зоры прасьветлыя,
Дайце душы вы спакой!
Думкі, усплывіце шчасьлівыя, сьветлыя,
Смутак зьвіштожце вы мой.

Хай спачывае душа адзінокая
I умацнея яна.
Хай-жа журба мая зьнікне глыбокая,
Хай надыйдзе цішыня.

Думкі, палійцеся хвалямі рэчкаю,—
Проч ад мяне ты, клацьба!
Ворагі зьгінуць, ні будуць нам вечнымі,
Скончыцца глум, барацьба!

Думкі, усплывіце шчасьлівыя, сьветлыя,
Смутак зьвіштожце вы мой;
Зоры магутныя, зоры прасьветлыя,
Дайце душы вы спакой!

*Я. Журба.*

## „Конфэдэраліст".

Украінскія с.-р. нізалежныя выдаюць свой орган «Конфэдэраліст». У стацці «Замест программы» яны так запачаюць свае пагляды:

«Мы конфэдэралісты. Простую фэдэрацыю мы лічым утопіей (нізбытачнай марай, лятуценнем). Фэдэрацыяў рожных народаў на сьвеці ні бывае, і па сваёй істоці яны німагчымы. Фэдэрацыя с цэнтральным парлямэнтам і дужым цэнтральным урадам] на чале магчыма толькі у формі аднонацыянальнай. калі яна злучае раскіданыя часткі аднае і і тае нацыі (Злуч. Штаты, Аўстралія, Аргенціна і т. п.). У нас жа справа ідзе аб злучэнні розных народаў з рознымі культурамі і рознымі умовамі палітычнаго і эконамічнаго жыцця, і гэтакае абьеднанне можа насіць адно форму вольнаго хаўрусу вольных рэспублік, каторыя і ў хаўрусі захаваюць сваю вольнасьць, усю нізалежнасьць, увесь свой сувэрэнітэт,—або форму Конфэдэрацыі. Гэтакаго імення хаўрусу мы і дамагаемся, бо жадаем, каб Украіна назаўсюды заставалася нізалежнай рэспублікай у «созвѣздіи» другіх гэтакіх жа нізалежных рэспублік. Мы ні хочам, каб Украіна была простым штатам ці правінцыяй у якойсь мітычнай аднаўлёнай Расіі; мы хочам, замест буржуазна-рэспубліканскай імпэрыі, пабудаваць зусім новы гмах Конфэдэрацыі Вольных Народаў».

**№ 1 «Вольн. Беларусі» с прычыны нізалежнай ад рэдакцыі ні мог быць высланы усім падпішчыкам.**

**Рэдактар Я. Лёсік.**



Выдавец «Т-ва Беларускай Культуры». Друкарня Я. А. Гринблята